## СВЕТ

### ВІЗІТ Э. ГЕРКА Ў ЮГАСЛАВІІ

Па запрашэнню старшыні Саюза камуністаў Югаславіі, прэзідэнта Сацыялістычнай Федэратыўнай Рэспублікі Югаславіі Іосіфа Броз-Ціта з 4 па 8 мая пабываў у Югаславіі з афіцыйным візітам І сакратар ЦК ПАРП Эдвард Герэк з жонкаю.

### ПЛЕНУМ ЦК КПСС

26—27 красавіка адбыўся Пленум Цэнтральнага Камітэта КПСС.

Пленум заслухаў і абмеркаваў даклад Леаніда Брэжнева аб міжнароднай дзейнасці ЦК КПСС па ажыццяўленню рашэнняў XXIV з'езду партыі. Пленум аднагалосна прыняў пастанову, у якой цалкам і поўнасцю адобрыў праведзеную Палітбюро работу па забеспячэнню трывалага міру ва ўсім свеце і надзейнай бяспекі для савецкага народа, які будуе камунізм. У выступленнях удзельнікаў Пленума і яго пастанове адзначаны вялікі асабісты ўклад Л. Брэжнева ў вырашэнне гэтых задач.

Пленум выказаў поўнасцю згоду з аналізам міжнароднага становішча, які дадзены ў дакладзе Генеральнага сакратара ЦК КПСС і падкрэсліў актуальнасць пастаўленых у ім задач у галіне міжнароднай дзейнасці КПСС.

„Пленум ЦК, — гаворыцца ў пастанове, — даручае Палітбюро і надалей няўхільна ажыццяўляць вызначаны XXIV з'ездам КПСС знешнепалітычны курс, кіруючыся палажэннямі і вывадамі даклада таварыша Л. І. Брэжнева на гэтым Пленуме, змагацца за поўнае ажыццяўленне Праграмы міру, дабівацца таго, каб дасягнутыя змены ў міжнароднай абстаноўцы набылі неабарачальны характар“.

У свеце вынікі Пленума расцэньваюцца як новае сведчанне далейшага ўмацавання знешнепалітычных пазіцый Савецкага Саюза, яго міжнароднага прэстыжу, няўхільнага імкнення КПСС і Савецкай дзяржавы актыўна ажыццяўляць гістарычную Праграму міру, прынятую XXIV з'ездам КПСС.

### ЛЕНІНСКІЯ ПРЭМІІ

19 красавіка гэтага года пад старшынством акадэміка Д. Скабельцына адбылося пасяджэнне Камітэта па міжнародных Ленінскіх прэміях „За ўмацаванне міру паміж народамі“. Камітэт разгледзеў паступіўшыя прапановы аб прысуджэнні міжнародных Ленінскіх прэмій за 1972 год і прыняў пастанову па гэтаму пытанню.

За выдатныя заслугі ў барацьбе за захаванне і ўмацаванне міру прысуджаны міжнародныя Ленінскія прэміі: Леаніду Ільічу Брэжневу — Генеральнаму сакратару ЦК КПСС, Сальвадору Альендэ Госенс — прэзідэнту Рэспублікі Чылі, Энрыке Пастарына — старшыні Сусветнай федэрацыі прафсаюзаў (Уругвай) і Джэймсу Олдрыджу — пісьменніку, грамадскаму дзеячу (Англія).

### ІТАЛЬЯНСКАЯ КАМПАРТЫЯ

Больш за 113 тысяч новых членаў уступілі ў рады Італьянскай кампартыі з пачатку гэтага года, паведамляе газета „Уніта“. У ходзе штогадовай кампаніі па абмену партыйных білетаў ужо больш чым 1.545 тысяч камуністаў атрымалі білеты ўзору 1973 года. (ак)

## БССР

### У КАЛГАСЕ „1-Е МАЯ“

Мікалай Сачыўка, старшыня калгаса „1-е Мая“ Жлобінскага раёна, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, расказвае, што яго супрацоўнікі ў 1971 годзе намалацілі з кожнага гектара па 28,8 цэнтнера збожжавых, накапалі па 208 цэнтнераў бульбы. У мінулым годзе сярэдні ўраджай быў крыху ніжэйшы, бо не спрыяла пагода, але, напрыклад, ячменю сорту „альза“ атрымалі яны па 30 цэнтнераў з гектара, а авёс „кондар“ даў аж па 40 цэнтнераў. Сакрэт такога высокага ўраджаю заключаецца ў багатай запраўцы глебы ўгнаеннямі, у прымяненні добрага насення і старанней апрацоўцы поля.

### ХІМІКІ З ГРОДНА

Гродзенскія хімікі, якія працуюць на хімічна-тукавым камбінаце імя Сяргея Прытыцкага, слаўна сустрэлі Першамай. Яны далі хлебаробам звыш плана аж 10 чыгуначных эшалонаў мінеральных угнаенняў.

### ДАПАМОГА ХЛЕБАРОБАМ

Калектывы прадпрыемстваў і арганізацыі Кастрычніцкага раёна горада Віцебска накіравалі ў падшэфныя калгасы і саўгасы Шумінскага і Гарадоцкага раёнаў спецыяльныя групы механізатараў і сем трактараў. На дапамогу выехалі 23 шафёры, 6 трактарыстаў, 7 зваршчыкаў і многа спецыялістаў іншых прафесій. Усе яны дружна ўключыліся ў палявыя работы.

### АЦЭНЬВАЮЦЬ РАБОЧЫЯ

Напярэдадні Першамая Дзяржаўны рускі драматычны тэатр імя Горкага паказаў мінчанам новы спектакль — „Тры мінуты Марціна Гроу“. Першымі яго гледачамі былі рабочыя, інжынеры і служачыя прадпрыемства „Белэнергарамналадка“, якое ў сацыялістычным спаборніцтве заваявала пераходны сцяг.

### ФІЛЬМЫ АБ МОЛАДЗІ

Ганаровае званне лаўрэатаў Усесаюзнага фестывалю савецкай моладзі, прысвечанага 50-годдзю ўтварэння СССР, заваявалі рэжысёр Д. Міхлееў і аператар В. Цяслюк. Іх фільм „Птушка ікс“, выпушчаны творчым аб'яднаннем „Летапіс“ кінастудыі „Беларусьфільм“, прызнаны быў лепшым на рэспубліканскім конкурсе дакументальных фільмаў аб моладзі. Стваральнікі гэтага фільма ўдастоены прыза Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі. Другое месца прысуджана фільму Беларускага тэлебачання „Вяснянка“, які расказвае аб аднайменным танцавальным калектыве Магілёўскага аўтамабільнага завода.

### ЖЫВАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ ФАЛЬКЛОРУ

Сапраўднай энцыклапедыяй фальклору аказаўся 70-гадовы калгаснік Якаў Прыгодзіч з вёскі Лышча, што каля Пінска. Адкрылі яго вучоныя Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Вялікі знаўца мясцовага фальклору, цікавы субяседнік, ён дапамог сабраць шмат забытых паданняў, легенд і песень Палесся. Увайшлі яны ў зборнік каляндарна-абрадавых, вясельных, салдацкіх, жартоўных песень, частушак і народных прыказак, прымавак і казак Брэсцкай вобласці. Зборнік падрыхтавала выдавецтва універсітэта. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### СВЯТА ПРАЦЫ

Свята працы — 1 Май прайшоў ва ўсёй краіне вельмі ўрачыста і радасна. Быў сонечны дзень і быў гэта 29-ы Першамай у вольнай народнай Польшчы. Найбольшая першамайская дэманстрацыя адбылася, вядома, у Варшаве, дзе на ганаровай трыбуне прысутнічалі найвышэйшыя партыйныя і дзяржаўныя ўлады з першым сакратаром ЦК ПАРП Эдвардам Геркам.

Напярэдадні 1 Мая Эдвард Герэк і прадстаўнікі найвышэйшых улад правялі тэлефонныя размовы з рабочымі на розных фабрыках. А героі сацыялістычнай працы і заслужаныя дзеячы рабочага руху (130 асоб) сустрэліся з Палітбюро ЦК ПАРП.

### МАЙСКАЕ СВЯТА КУЛЬТУРЫ

У цэлай краіне распачаліся Дні асветы, кніжкі і прэсы. Кірмашы, выстаўкі, сустрэчы з аўтарамі і журналістамі — гэта галоўныя мерапрыемствы майскіх дзён культуры. Зацікаўленне кніжкай і газетай усё ўзрастае.

### ДБАЙНЫ І ХУТКІ ЗБОР ЗЯЛЁНЫХ ПЛЁНАЎ

Гэта вельмі важная справа, бо ад яе залежыць узрост пашаў і гадоўлі. Тэме збору зялёных плёнаў было прысвечана спецыяльнае пасяджэнне сельскагаспадарчай камісіі ЦК ПАРП. А пару дзён раней разглядала агульныя справы сельскай гаспадаркі Палітбюро ЦК ПАРП. Яно дало ўказанні ўраду і прамысловасці наконт павелічэння колькасці сельскагаспадарчых машын і будаўляных матэрыялаў для вёскі.

### ДЗЕНЬ МЕТАЛУРГА

Металургія — гэта адна з найважнейшых галін нацыянальнай гаспадаркі, а праца металурга належыць да адной з найцяжэйшых. З нагоды Дня металурга калектыў найбольшага ў краіне металургічнага камбіната „Гута Леніна“ заявіў аб выкананні дадатковай прадукцыі на 130 мільёнаў злотых.

### У ШВЕЦЫІ

Міністр замежных спраў ПНР Стэфан Альшоўскі пабываў з афіцыйным візітам у Швецыі, дзе правёў таксама размову з прэм'ерам шведскага ўрада Олафам Пальмэ.

### ЭКСПАРТ ПАРАХОДАЎ

Наша суднаходная прамысловасць вядома ў свеце. Польскія рабочыя будуюць многа рознага роду суднаў і большасць з іх на экспарт. Аж 6 працэнтаў складае экспарт суднаў у агульным экспарце краіны. З сацыялістычных краін найбольш прадаем суднаў СССР, з капіталістычных — найбольш Нарвегіі і Францыі.

### ПРЭЗІДЫУМ СУСВЕТНАГА САВЕТА МІРА Ў ВАРШАВЕ...

...сабраўся на чатырохдзённае пасяджэнне. Сусветны савет міра — гэта арганізацыя, якая была створана на другім кангрэсе сіл міра ў 1950 годзе, які адбываўся ў Варшаве. Сусветны савет міра мае свае нацыянальныя камітэты ў звыш ста краінах свету. На пасяджэнне прыбыў прэм'ер Пётр Ярашэвіч, які выступіў з прывітальнай прамовай. (вл)

## ВАЯВОДСТВА

### ПЕРШАМАЙ

Напярэдадні свята працоўных у будынку ВК партыі адбылася сустрэча экзекутывы ВК і ГК з дзеячамі рабочага руху і перадавікамі працы. 53 чалавекі атрымалі адзнакі „Заслужаны для Беласточчыны“, а некалькі старых дзеячоў атрымалі віншавальныя лісты ў сувязі з 50-годдзем дзейнасці ў рабочым руху. Вечарам напярэдадні 1 Мая ў тэатры імя А. Вянгеркі адбыўся ўрачысты канцэрт. Прысутнічалі члены экзекутывы ВК ПАРП на чале з З. Куроўскім, члены Прэзідыума ВРН — са старшынёй Прэзідыума ВРН З. Спрыхам, прадстаўнікі СД і ЗСЛ, ФАН, прафсаюзаў і маладзёжных арганізацый, перадавікі працы прамысловасці і сельскай гаспадаркі, заслужаныя дзеячы рабочага руху. З дакладам выступіў сакратар ВК ПАРП Ул. Юшкевіч, а ў мастацкай частцы — аркестр Войска Польскага і артысты варшаўскай эстрады.

1 Мая працоўныя Беласточчыны ў Беластоку і ў іншых гарадах ваяводства масава выйшлі на першамайскую дэманстрацыю.

### НОВАЯ БАЛЬНІЦА

Напярэдадні Першамая ў Беластоку аддадзены ў карыстанне новы будынак дзіцячай бальніцы пры Ваяводскай бальніцы імя Снядэцкага. Гэты будынак, у якім будуць знаходзіцца тры аддзяленні дзіцячай бальніцы, пабудаваны на два гады раней тэрміну. У будынку прасторныя светлыя палаты, сучаснае медыцынскае абсталяванне. У такой бальніцы лепш будзе хворым дзецям і лягчэй працаваць медыцынскаму персаналу.

За выдатную працу будаўнікі і група медыцынскага персаналу на чале з дырэктарам бальніцы А. Доўтірдам атрымалі высокія дзяржаўныя ўзнагароды.

### ДНІ АСВЕТЫ, КНІЖКІ І ПРЭСЫ

Пачаліся ўжо традыцыйныя Дні асветы, кніжкі і прэсы. Нядзеля, 6 мая, была першым днём традыцыйных кірмашоў і мастацкіх выступленняў на свежым паветры ў парках. У Беластоку кірмаш „Дома кніжкі“ адбыўся па вул. Дзяржынскага, а выдавецкая спулдзельня „Прэса — кніжка — рух“ арганізавала вялікі кірмаш у парку ля тэатра імя А. Вянгеркі. Падобныя кірмашы адбываліся ва ўсіх павятовых гарадах. Вялікай папулярнасцю карысталіся латарэі. Падобныя мерапрыемствы адбудуцца і ў наступныя нядзелі мая.

### АТРЫМАЛІ ПЕРАХОДНЫ СЦЯГ

Калектыў Прадпрыемства чыгуначнага транспарту ў Лапах (ЗНТК) атрымаў пераходны сцяг Міністэрства камунікацыі і прафсаюза чыгуначнікаў. Лапскае прадпрыемства заняло II месца ў спаборніцтве на лепшыя вынікі працы ў сваёй галіне. На ўрачыстасці ўручэння пераходнага сцягу прысутнічаў віцэ-міністр камунікацыі В. Шаблеўскі.

### ПАДСУМАВАННЕ

У Аўгустове адбылося падсумаванне вынікаў конкурсу „Жыхары свайму гораду“ ў нашым ваяводстве. Вартасць працы грамадскім чынам у пералічэнні на аднаго жыхара найвышэйшая была ў Сямяціцкім і Сэйненскім паветах. Сярод большых гарадоў (больш як 7 тыс. жыхароў) першае месца заняў Аўгустоў. Сярод меншых гарадоў — Цеханавец. (яч)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**NIEDZIELA 13.V.**

7.40 Program dnia. 7.45 TV Kurs Rolniczy. 8.20 „Przypominamy, radzimy”. 8.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie”. 9.00 TELERANEK. 10.20 „Antena”. 10.35 „Świat, który nie może zaginąć” — film ang. 11.00 „Realiści” — (W kręgu mistrzów sztuki”). 11.30 Zespół Tańca Ludowego im. Harnama w Łodzi. 12.05 Dziennik. 12.20 „Przemiany”. 12.50 Dla dzieci: I. Jurgielewiczowa — „Osiem lalek i jeden miś”. 13.45 „Dziś Warszawa, jutro Praga” — teleturniej. 14.35 Losowanie Totolotka. 14.55 Sprawozdanie z trasy XXVI Wyścigu Pokoju. 17.30 Reportaż. 17.55 „Romeo i Julia” — film balet. TV Czechosł. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Elżbieta, królowa Anglii” — film ang. — „Lwiątko” odc. I. 21.40 PKF. 21.50 „Sofia-show”. 22.35 Magazyn sportowy. Kronika Wyścigu Pokoju.

**PONIEDZIAŁEK 14.V.**

12.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 15.05 i 23.20 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.10 Program dnia. 16.15 Sprawozdanie z trasy XXVI Wyścigu Pokoju. 17.30 Dziennik. 17.40 „Zwierzyniec”. 18.10 „Oferty”. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Eureka”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV: J. A. Kisielewski — „Karykatury”. 21.45 „Pryzmat”. 22.15 Dziennik. 22.30 Kronika Wyścigu Pokoju. Wiadomości sportowe. 22.50 Gra Emanuel Ax (USA).

**WTOREK 15.V.**

8.30 „Lwiątko” — film. ang. („Elżbieta, królowa Anglii”) odc. I 10.00 Dla szkół: (kl. IV) „W delcie Wisły”. 10.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — J. Szaniawski „Żeglarz”. 11.30 Filmy dokumentalne. 12.45 Dla szkół: (kl. I lic. Język polski — „Poezja polskiego Oświecenia”. 15.20 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 15.55 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.20 TV Kurier Mazowiecki. 18.40 „Miasteczko na szlaku”. 19.10 „Przypominamy, radzimy”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Piękna Angelika” — film fab. franc. 21.55 „Ex libris”. 22.25 Dziennik. 22.40 Kronika Wyścigu Pokoju. Wiadomości sportowe.

**ŚRODA 16.V.**

8.15 „Piękna Angelika” — film fab. franc. 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Poczdam i Norymberga”. 10.25 „Syberyjscy mistrzowie” — film dok. radz. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Drgania i fale”. 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „W przededniu niepodległości”. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 14.00 „Wybieramy zawód”. 14.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.00 Program dnia. 16.05 Sprawozdanie z trasy XXVI Wyścigu Pokoju. 17.00 Dziennik. 17.30 Sprawozdanie z międzypaństwowego meczu piłki nożnej Polska—Irlandia. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Gwiazdy nad rzeką” — film radz. („Cienie zanikają w południe”) odc. V. 21.20 „Świat i Polska”. 22.00 „Z dziejów baletu”. 22.30 Dziennik. 22.45 Kronika Wyścigu Pokoju. Wiadomości sportowe oraz sprawozdanie z finałowego meczu piłki nożnej o Puchar Zdobywców Pucharów (Saloniki).

**CZWARTEK 17.V.**

7.55 „Gwiazdy nad rzeką” film radz. („Cienie zanikają w południe”) odc. V. 9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Ważny kwas”. 9.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — J. Szaniawski „Żeglarz”. 10.55 Dla szół: (kl. III lic.) Język polski — „Aktualności filmowe”. 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski — „Władysław Broniewski”. 14.00 Matematyka w szkole: „Pogłębianie i utrwalanie materiału nauczania w ćwiczeniach”. 14.40 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 15.15 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 15.45 Program dnia. 15.50 „Informacje, Towary, Propozycje”. 16.10 Sprawozdanie z trasy XXVI Wyścigu Pokoju. 17.20 Dziennik. 17.30 „Ekran z bratkiem”. 18.15 PKF. 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 „Kwadrans akademicki”. 19.10 „Przypominamy, radzimy”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr Sensacji: J. Janicki — „Akcja V”. 21.25 „Rodzina”. 21.50 „Ekspres nr 26”. 22.20 Dziennik. 22.35 Kronika Wyścigu Pokoju. Wiadomości sportowe.

**PIĄTEK 18.V.**

8.15 „Ludzie przeciwko sobie” — film fab. wł. 9.55 Dla szkół: (kl. I—III lic.) Wychowanie techniczne — „Problemy motoryzacji”. 10.25 Filmy dokumentalne. 10.55 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Wychowanie techniczne — „Nowoczesna kuchnia”. 11.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Przysposobienie obronne — „Służba wartownicza”. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 13.20 TV Technikum Rolnicze: Mechanizacja rolnictwa. 14.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 15.45 Program dnia. 15.50 „Nie tylko dla pań”. 16.15 Sprawozdanie z trasy XXVI Wyścigu Pokoju. 17.55 Dziennik. 18.05 „Pora na Telesfora”. 18.50 TV Kurier Warszawski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Śpiewa Magda Umer. 20.45 „Panorama”. 21.25 Teatr TV na świecie: W. Szekspir — „Wieczór Trzech Króli”. 23.00 Dziennik. 23.15 Kronika Wyścigu Pokoju. Wiadomości sportowe.

**SOBOTA 19.V.**

9.40 FILMY Z GRETĄ GARBO: „Jaką mnie pragniesz”. 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku — „Sprawy 15-latków”. 14.20 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 14.55 TV Technikum Rolnicze: Mechanizacja rolnictwa. 15.25 Program dnia 15.30 Program I proponuje. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.00 Telereklama. 16.10 Sprawozdanie z trasy XXVI Wyścigu Pokoju. 17.20 Dziennik. 17.30 Dla młodych widzów: „Starcie” — „Czy lubisz sztukę ludową”. 18.00 „Patelnia i księżyc”. 18.30 „Pegaz”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Alfabet Rozrywki” — „T — jak tango”. 21.15 Dziennik. 21.30 Kronika Wyścigu Pokoju. Wiadomości sportowe. 21.50 FILMY Z GRETĄ GARBO: „Jaką mnie pragniesz”. 22.55 „Studio przebojów” — program TV NRD.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek, 11 maja**

8.30 Film. fab. 9.45 Szkoła szachowa. 10.15 Śpiewa K. Radczenko. 11.00 Filmy dokument. 14.15 Program dnia. 15.00 Dla dzieci. 16.10 Białoruś literacka. 17.00 Świat socjalizmu. 17.30 Spektakl TV. 19.00 Czas. 19.50 Artysta Ludowy ZSRR L. Rachlenko. 21.00 Finał szermierczych mistrzostw ZSRR.

**Sobota, 12 maja**

7.00 Program dnia. 7.30 Koncert. 8.15 Przegląd międzynarodowy. 8.30 Wiersze R. Baradulina. 9.00 Mozaika muzyczna. 9.15 Białe i czarne. 10.40 Film fab. 11.45 Ekran dokument. 13.00 Filmy animowane. 13.30 Film dokument. 14.30 Film fab. 16.20 W świecie zwierząt. 17.50 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Piłka nożna. „Dynamo” (Mińsk) —„Torpedo” (Moskwa).

**Niedziela, 13 maja**

7.00 Program dnia 8.00 Dla żołnierzy. 8.30 Kiosk muzyczny. 10.00 Mistrzostwa Europy w gimnastyce. 14.15 Filmy animowane. 15.00 Klub filmowy. 15.55 Piłka nożna. ZSRR—Irlandia Płn. 17.50 Film fab. 19.15 Czas. 19.45 Sala tańców. 20.15 Mistrzostwa Europy w gimnastyce.

 

# ПАГАДНЕННЕ ПАМІЖ БГКТ І СТУДЭНТАМІ ВСІ

Пры Вышэйшай інжынерскай школе ў Беластоку існуе дыскусійны фільмовы клуб „Кляпсік". Праца яго не з'яўляецца найлепшай. Цяжкія памяшкальныя ўмовы школы не дазвалялі дэманстраваць там фільмаў. Студэнты пастанавілі знайсці іншы выхад. Дагаварыліся з кіраўніцтвам Галоўнага праўлення БГКТ, якое мае адпаведнае памяшканне.

Нядаўна адбылася скромная ўрачыстасць. У прысутнасці прыбыўшых студэнтаў — членаў ДКФ „Кляпсік" у вялікай зале ГП адбылося падпісанне пагаднення паміж ГП БГКТ і студэнцкай радай ВСІ. Дагавор з боку БГКТ падпісалі Мікола Самоцік, старшыня ГП, і Валя Філіпюк, кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП, а з боку студэнтаў Адам Палуднеўскі, старшыня камісіі культуры Рады СЗСП пры ВСІ, і Міхал Яцкевіч, прадстаўнік ДКФ „Кляпсік".

Згодна з пагадненнем, студэнты будуць карыстацца залай ГП пры праекцыі фільмаў і вядзенні дыскусіі. Студэнцкімі фільмовымі мерапрыемствамі будуць карыстацца члены БГКТ.

**Тэкст і фота А. Карпюка**



*Момант падпісання дагавору: злева М. Яцкевіч, М. Самоцік.*



*Студэнты — члены ДКФ «Кляпсік» на ўрачыстасці падпісання дагавору.*

# ● ІНФАРМАЦЫІ З ГАРАДКА ●

Не з каляндарным, а з гаспадарчым годам звязаны ўсе гаспадарчыя справы (гаспадарчы год пачынаецца 1 ліпеня і канчаецца 31 чэрвеня). Сяляне гарадоцкай гміны перад І-ым маем выканалі ў 90% план куплі мінеральных угнаенняў. „І напэўна будзе ён выкананы ў 100%", — сцвярджае сакратар гміннай рады В. Савіцкі. Значыць, на сялянскіх палях будзе тут высеяна 4,5 тыс. тон мінеральных угнаенняў.

* ✲ *

У красавіку ў Гарадоцкай гміне многа чаго зрабілі грамадскім чынам. Адрамантавалі кусок дарогі ад станцыі Валілы да Гарадка пры дапамозе машын з мясцовага МБМ. Вартасць чыну ацэнена тут на 220 тыс. зл. Двухкіламетровы адрэзак дарогі паміж Бялявічамі і Вейкамі наладжвалі ЗМС-аўцы з фабрыкі „Каро" і вучні з пачатковай школы ў Гарадку. Чын гэты акрэсліваецца сумай 50 тыс. зл. Грамадскім чынам будзе абгароджана сядзіба гміны, а перад будынкам будуць пасаджаны кветкі. Выканаюць гэту работу працаўнікі гміны. Усіх грамадскіх работ запланавана ў Гарадоцкай гміне на 450 тыс. зл.

* ✲ *

Па ўсіх вёсках гміны прайшлі спецыяльныя „тройкі" (трохасабовыя свайго роду камісіі), якія вызначылі заданні, звязаныя з упарадкаваннем сяліб, вуліц, агароджаў і г.д. Гэта ў значнай меры паправіць эстэтычны выгляд вёсак. Найбольш псуюць выгляд многіх вёсак паламаныя платы, але ўсе яны будуць наладжаны. У Валілах-вёсцы і на калоніі Меляшкі сяляне адразу ўзяліся за работу. У вёсцы Меляшкі па абодвух баках маставой укладваюцца ходнікі. Пры многіх школах пасаджаны дэкаратыўныя дрэвы — таполя і явар.

* ✲ *

У Гарадку многія жыхары хочуць будаваць дамы, 60 заяў ляжыць у гміне адносна прыдзелу пляцоў. У Гарадку ўжо вызначана 30 пляцаў ды яшчэ 40 у напрамку Валіл можна было б вызначыць. Але на гэта пакуль што няма дазволу ад Ваяводскай рады нарадовай. А шкада, што так доўга. Вясна — вельмі добры час на будаўніцтва. (мх)



*Педагагічная бібліятэка ў Саколцы. Фота Я. Цялушэцкага.*




ПАЭЗІЯ АПАЛІНЭРА
НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

У выдавецтве „Мастацкая літаратура" паявілася падборка твораў славутага французскага паэта **Гіёма Апалінэра.** Кніжка называецца „Зямны акіян". Падрыхтавала яе вядомая беларуская паэтэса Эдзі Агняцвет. Над перакладамі вершаў Апалінэра на беларускую мову працавала яна тры гады.

Кніжку папярэджвае прадмова, якую таксама напісала Эдзі Агняцвет. Між іншым, указвае яна там, што бацькі Апалінэра, які ў сапраўднасці называўся **Вільгельм Астравіцкі,** жылі пад Навагрудкам і толькі пасля студзеньскага паўстання вымушаны былі выехаць за мяжу. Сам Апалінэр нарадзіўся ўжо ў Італіі. З яго імем звязаны новы напрамак у паэзіі канца XIX і пачатку XX стагоддзя. (вр)




# АНКЕТА „НІВЫ"

**Дарагі наш чытач!**

Час ад часу звяртаемся да Вас з просьбай выказаць сваю думку аб „Ніве". Сёння, у Дні асветы, кніжкі і друку, зноў просім Вас адказаць на пытанні анкеты, памагчы нам палепшыць тыднёвік. Сярод удзельнікаў разлясуем кніжныя ўзнагароды.

**1. Як рэгулярна Вы чытаеце „Ніву"?** (падкрэсльце) кожны нумар — прыкладна адзін нумар у месяц — два-тры нумары ў месяц — радзей, чым адзін нумар у месяц.

**2. У які дзень Вы, як правіла, чытаеце „Ніву"?** (падкрэсльце) пятніца, субота, нядзеля, панядзелак, аўторак, серада, чацвер.

**3. А ў які дзень звычайна купляеце (атрымліваеце) тыднёвік?** (падкрэсльце) пятніца, субота, нядзеля, панядзелак, аўторак, серада, чацвер.

**4. Пералічыце, калі ласка, хто яшчэ, апрача Вас, чытае той жа экземпляр „Нівы"? (хто з членаў Вашай сям'і, сябры, суседзі і г.д.).**

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**5. Колькі год Вы чытаеце „Ніву"?** (падкрэсльце) першы год — 2-3 гады — 4-5 год — 6 і больш год.

**6. Ніжэй пералічаны асноўныя раздзелы „Нівы". Адзначце крыжыкам у адпаведнай графе, наколькі Вас задавальняе матэрыял гэтых раздзелаў.**

| | Поўнасцю задавальняе | Больш-менш задавальняе | Не задавальняе | Не маю поўнага меркавання |
|---|---|---|---|---|
| Арганізацыйнае жыццё | | | | |
| Гаспадарчае жыццё | | | | |
| Культура | | | | |
| Асвета | | | | |
| Грамадскія пытанні | | | | |
| Гістарычныя публікацыі | | | | |
| Трыбуна чытачоў | | | | |

**7. Скажыце, калі ласка, калі ў свеце або ў нашай краіне адбыліся нейкія важныя падзеі ў палітычным, эканамічным ці культурным жыцці, аб якіх ужо расказалі газеты, радыё, тэлебачанне, што б Вы параілі зрабіць нашаму тыднёвіку?** (падкрэсльце) паўтарыць газетныя паведамленні — даць каментарый — надрукаваць фотарэпартаж — апублікаваць матэрыял аб людзях, звязаных з гэтай падзеяй — больш аб гэтай падзеі не пісаць — не маю поўнага меркавання.

**8. Як часта Вы чытаеце матэрыялы нашых рубрык?** (адзначце крыжыкам у адпаведнай графе).

| | Чытаю заўсёды | Чытаю часам | Не чытаю |
|---|---|---|---|
| На ніве БГКТ | | | |
| Хроніка БГКТ | | | |
| Нашы інтэрв'ю | | | |
| Новыя вершы | | | |
| Свет | | | |
| БССР | | | |
| Польшча | | | |
| Ваяводства | | | |
| Тэлевізія-Варшава | | | |
| Тэлевізія-Мінск | | | |
| Этнаграфічнае акенца | | | |
| Адгалоскі | | | |
| Белавежа — літстаронка | | | |
| Беларуская літаратура (А. Баршчэўскі) | | | |
| Людзі добрай работы | | | |
| Фальклор | | | |
| І так бывае | | | |
| Беларусіяна | | | |
| Беларускія кнігі | | | |
| Карэспандэнцыя з Мінска | | | |
| Куток практычных ведаў | | | |
| Аповесць у адрэзках | | | |
| Парнасік | | | |
| Кансультацыя юрыста | | | |
| Сардэчныя тайны | | | |
| Наша пошта | | | |
| Кіно | | | |
| „Нiўка" — старонка гумару. | | | |

**9. Якія змены, на Вашу думку, адбыліся з „Нівай" за апошнія гады?** (падкрэсльце) стала больш цікавай — стала менш цікавай — засталася без змен — не маю поўнага меркавання.

**10. Якія раздзелы і рубрыкі „Нівы" Вы прасілі б**

пашырыць . . . . . . . . . . . . скараціць

**11. Хто з аўтараў „Нівы" найбольш запамятаўся Вам?**

**12. Ці не змаглі б Вы прапанаваць адну або некалькі тэмаў (праблемаў), з якімі трэба было б выступіць „Ніве"?**

**13. Аб якіх людзях з Вашай мясцовасці варта было б напісаць у „Ніве"?**

**14. Чаго, на Вашу думку, не хапае „Ніве"?**

**КРЫХУ АБ САБЕ:**

**1. Колькі вам год?**

**2. Адукацыя?**

**3. Чым займаецеся?**

**4. Ваш адрас**

Дзякуем за адказы, яны памогуць нам у працы. Адказы прымаем да 31 мая гэтага года. Наш адрас:

Redakcja tygodnika „Niwa", skr. poczt. 281, 15-950 Białystok.

 

## Чыгуначнік Астапковіч — перадавы гаспадар

(Працяг са стар. 1)

— А як суседзі глядзяць на вашыя доследы?

— Некаторыя толькі глядзяць, а некаторыя стараюцца рабіць так, як я раблю, раяцца, распытваюць. Некалькі гаспадароў бралі ў мяне насенне пшаніцы...

Усеагульнай балячкай сельгасгурткоў ёсць тое, што няма адпаведных планаў на гаражы для машын сельгасгуртка. Будаваныя дагэтуль гаражы прадбачвалі толькі месца на трактары і іншыя малыя машыны, а МБМ і сельгасгурткі атрымалі ўжо камбайны, якіх абсалютна няма куды схаваць. Астапковіч зрабіў сам праект на гараж, млын, кузню і выезд для камбайна. Каштарыс гэтага памяшкання — 120 тыс. зл.

Адзін з бліжэйшых планаў Астапковіча — гэта пабудова хлеўні дацкага тыпу на 50 кормнікаў у год. Мяркуе гэта зрабіць з адным з суседзяў.

— Будучы на выстаўцы ў Познані, я бачыў такую хлеўню і яна мне спадабалася. Аднак маю пэўныя крытычныя заўвагі; у гэтай хлеўні за многа жалеза і бетона. Я планую ўвесці больш дзерава.

Васіль Астапковіч — гэта светлы гаспадар. Многа чытае, многа хоча ўвесці ў гаспадарку. Але ён і грамадскі дзеяч. Ужо другі раз выбралі яго радным ГРН, дзейнічае ён і ў сельгасгуртку. Мае свой погляд на сельскую гаспадарку ў раёне Чаромхі.

— На маю думку, у сельскай гаспадарцы было многа хістанняў. Амаль кожны з тутэйшых гаспадароў стараўся запэўніць сабе пастаянную працу і мець адначасова гаспадарку. Так яно і ёсць. А зараз справа так выглядае, што без гаспадароў-рабочых чыгунка не можа жыць і зямля таксама не можа радзіць. Тыя, хто працуе на чыгунцы, уводзяць прагрэс у свае гаспадаркі.

Гэта словы Астапковіча, які, здаецца, вельмі ўмела падгледзеў і ацаніў гэтыя справы. Справы гаспадароў-рабочых у рабочых раёнах гэта ніякае зло, гэта неабходнасць.

**Аляксей Карпюк**

фота аўтара

## ГОНАР БАЦЬКІ

Калі вы будзеце ехаць жвіроўкай ад Бельскай шашы ў Плёскі і калі за сабою з левага боку пакінеце некалькі сяліб, ваша вока абавязкова прыцягнуць прыгожыя аканіцы аднаго з многіх пекных дамоў гэтай вёскі. Вось менавіта ў гэтым доме (глядзі здымак) жыве Іван Васілюк са сваёй жонкай Лідай. І калі пачнеце з ім гаварыць пра жыццё-быццё на вёсцы, ён хутка павядзе гаворку аб сваіх дзецях.

— Сын мой Іван, — скажа, — загадвае курынай фермай, робіць вялікую справу для спулдзельні прадукцыйнай у Дарожках, якая выкарыстоўвае нашыя паспулдзельчыя плёскаўскія будынкі.

Бацька раскажа аб цікаўнасцях у вырошчванні куранят і аб тым, як за 8—10 тыдняў прывезеныя некалькідзённыя куранякты дасягаюць вагі больш 2 кг. А пазнаёміўшыся з сынам, можаце даведацца аб тым, што з кожнай 8—10-тыднёвай гадоўлі (а іх бывае ў год 4—5) спулдзельня прадукцыйная ў Дарожках мае па 200 тыс. злотых і больш чыстага даходу. Можаце таксама пачуць ад яго аб тым, чым трэба карміць куранят, каб яны былі здаровыя і каб хутка прыбывалі на вазе, можаце скарыстаць з яго добрых парад адносна птушкагадоўлі.

Яшчэ больш заблішчаць вочы бацькі, калі ўспомніць ён пра дачку Людмілу.

„Аб ёй у газетах пішуць часта", — з гонарам і з павагаю выгаварыць гэтыя словы і адразу ўспомніць пра Зосю Балло, Іру Паўлючук, Ліду Максімюк, Олю Амельянчык і Мірка Іванюка. З гэтых асоб складаецца эстрадны плёскаўскі калектыў, які здабыў ужо вялікую папулярнасць і аб якім пісалася, у тым ліку і ў „Ніве", і напэўна будзе яшчэ больш пісацца ў газетах.

Яна вучаніца чацвёртага класа Беларускага ліцэя ў Бельску, з'яўляецца адначасова мастацкім кіраўніком гэтай эстраднай групы. Яна таксама старшыня гуртка БГКТ у Плёсках, які залічаецца да аднаго з лепшых у Бельскім павеце.



*Іван Васілюк з канём.*

Іван Васілюк заслужана ганарыцца сваімі дзецьмі. І ён сам у гэтым адыграў не малую ролю, бо разам са сваёй жонкай Лідай выхаваў іх на добрых і прыкладных людзей.

**Тэкст і фота М. Хмялеўскі**



*Хата Васілюкоў.*

## ДЗЕ? ШТО? КАЛІ?

Праграма культурных мерапрыемстваў БГКТ на наступны тыдзень.

**Беласток.** Таварыская вечарына. 19 мая, 19 гадзін. Турнір брыджа. 20 мая, 19 гадзін.

**Варшава.** Даклад А. Багроўскай аб беларускай кінематаграфіі. 18 мая.

**Беластоцкі павет. Бялявічы.** Выступленне тэатральнага калектыву з Меляшкоў і хору з Новай Волі. 20 мая, 19 гадзін.

## ФАЛЬКЛОР

### ЖУРАВЫ

Lento

— Чу-еш, брат-ка мой, на-стаў сум-ны час — Ад-ля-та-юць сі-нім шля-хам

жу-ра — вы ад нас. Чу-ці: — Кру, кру, кру!.. У чу-жы-не ўмру...

Па-куль мора пе-ра-ля-чу, кры-лач-кі за-тру.

*— Чуеш, братка мой, настаў сумны час —*
*Адлятаюць сінім шляхам журавы ад нас.*
*Чуці: — Кру, кру, кру!.. У чужыне ўмру...*
*Пакуль мора пералячу, крылачкі затру.*
*Мерашчыць у вачах непраглядны шлях,*
*Гіне, гіне ў сіняй далі след па журавах.*
*Чуці: — Кру, кру, кру!.. У чужыне ўмру...*
*Пакуль мора пералячу, крылачкі затру.*
*Пакуль мора пералячу, крылачкі затру.*

Ад вядомага дзеяча на ніве беларускай народнай культуры ў Польшчы Ніны Мушынскай, 1910 года нараджэння, якая жыве ў мястэчку Гарадок, Беластоцкага павету, запісаў 24 студзеня 1973 г. Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіў Эдуард Гойлік.

Гэтая песня ўзнікла, бадай, у асяроддзі моладзі, якая ў канцы 20-ых і на пачатку 30-ых гадоў масава выязджала з Заходняй Беларусі ў Амерыку ў пошуках працы.

## Васькоўскія спулдзельцы ізноў выходзяць на сваё

Сельскагаспадарчы прадукцыйны кааператыў у Васьках Гайнаўскага павету існуе ўжо нямала гадоў. У сямідзесятым годзе па віне тагачаснага кіраўніцтва кааператыва былі тут немалыя страты. Аднак, калі ў 1971 годзе старшынёю кааператыва стаў Міхась Хмель, усё пайшло на лепшае. Цяпер кааператыў вядзе гаспадарку на трохсот гектарах зямельных угоддзяў і аб'ядноўвае 25 сем'яў. У мінулым годзе кааператыў меў даволі высокія ўраджаі збожжавых культур, пад якія адвёў палавіну ўсіх сваіх угоддзяў. Асабліва ўрадзіла пшаніца „данькоўская белая", якая сыпнула па 26 цэнтнераў з гектара. Апрача таго, кааператыў мае добрыя вынікі ў жывёлагадоўлі. Спулдзельцы гадуюць больш дваццаці тысяч штук курэй-брайлераў, свіней і цялят-шаралесаў. Для шаралесаў у гэтым годзе будзе адведзена 38 гектараў пасбішчаў для кватэрнага выпасу. У будучыні асноўным напрамкам у жывёлагадоўлі будзе свінагадоўля. У гэтым годзе будзе закуплена 250 парасят.

Пра механізацыю палявых работ расказала нам асістэнт агранома Валянціна Лаўрэшук. Кааператыў мае камбайн „Бізон", які проста неабходны пры ўборцы збожжа. Сёлета спулдзельцы атрымаюць таксама новыя сельгасмашыны: трактар, бульбакапалку, глебагрызалку і іншыя.

Васькоўскія спулдзельцы хваляць працу ў кааператыве. У мінулым годзе ў гадавым падліку на аднаго спулдзельца выпала па 15 і 20 тысяч злотых. А як вядома, кожная сям'я кааператыўшчыкаў мае свае ўласныя паўгектаровыя прысялібныя гаспадаркі і самастойна вырошчвае бульбу, агародніну, фрукты. Некаторыя гадуюць кароў, свіней і курэй. Малако дастаўляюць яны на пункт скупкі малака і такім чынам прыбывае, як гавораць, свежы грош у хату. Спулдзельцы ў дамашняй гаспадарцы карыстаюцца лядоўкамі, пралькамі і іншым абсталяваннем хатняга ўжытку. Маюць тэлевізары і радыёпрыёмнікі.

Спулдзельцы з Васькоў належна шануюць супольнае дабро, усюды лад і парадак. Два гады таму назад, калі былі немалыя страты ў кааператыве, спулдзельцы самі спынілі дрэнную дзейнасць старшыні і справу накіравалі ў суд. Змяніўся старшыня, і кааператыў зноў стаў у ліку лепшых сярод іншых сельскагаспадарчых кааператываў на Гайнаўшчыне. Васькоўскія спулдзельцы найлепш ведаюць, калі ў іх кааператыве дзеецца зло, і адразу перадольваюць яго. Тут яны самі гаспадары.

**Я. Цялушэцкі**

## КЛУБ „РУХ" — ЦЭНТР КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЦЯ

Клуб „Рух" у Васількове Беластоцкага павету быў адкрыты ў 1971 годзе. Клуб атрымаў поўнае абсталяванне ўключна з тэлевізарам ды магнетафонам. Да маладых наведвальнікаў належала ўжо, каб было тут прыемна і культурна. За гэта ўзяліся члены мясцовых арганізацый ЗСМВ і БГКТ. Вельмі дапамагала ў арганізацыі культурных мерапрыемстваў кіраўнік клуба Гражына Стэфанчук. Моладзь пачала арганізаваць танцавальныя вечарыны, але не толькі для адных танцаў, як гэта амаль усюды прынялося. Танцы праходзілі тут уперамешку са згадуй-згадуляй, конкурсамі, песнямі, рознымі іграмі. Моладзь ахвотна ішла на аўтарскія сустрэчы з пісьменнікамі (Марыяй Шулецкай, Аляксандрам Амільяновічам), з журналістамі, мясцовымі дзеячамі. Пры клубе пачалі працаваць гурткі шахматыстаў, брыджыстаў і мастакоў-жывапісцаў. Неўзабаве пачне працу вакальна-музычны калектыў. Моладзь з Васількова любіць добрую музыку і песні. Вельмі цёпла ўспрымаўся ёю канцэрт, у якім выконваліся песні Булата Акуджавы. Маладыя гаспадары клуба адзначаюць у клубе дзяржаўныя святы, а таксама розныя гадавіны.

У апошні час члены БГКТ узяліся за падрыхтоўку пастаноўкі на беларускай мове пад загалоўкам „Міхалка", а таксама ахвотна заняліся арганізацыяй аркестра і вылаўліваннем са свайго асяроддзя добрых салістак, якія спявалі б песні не толькі на польскай мове, але таксама на рускай і беларускай. Усе рыхтуюцца да турніра шахматыстаў на кубак старшыні мясцовага жыллёвага кааператыва. У працы клуба асабліва вылучаюцца: Аня Федаровіч, Казімір Святліцкі, Юзэф Данілевіч, Марыся Дзеніс, Тадэуш Вайтулевіч, Збышак Вішаваты і іншыя.

**Я. Цялушэцкі**



*Канвеер для выканчэння і камплектацыі блок-пакояў.*



*Пагрузка блок-пакояў для транспарціроўкі на мантажную пляцоўку.*

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# Трэці домабудаўнічы

Мінскі домабудаўнічы камбінат № 3 — адно з нямногіх у краіне прадпрыемстваў, якое выпускае... кватэры. Гэта не агаворка. На камбінаце сапраўды вырабляюцца пакоі з усім неабходным абсталяваннем. Дастаўляюць такі блок-пакой на будаўнічую пляцоўку, і будаўнікам застаецца толькі сабраць дом. Таму і праца на будаўніцтве ідзе шпарка. Брыгада ў 6—8 чалавек за чатыры змены мантуе цэлы паверх. На будаўніцтва пяціпавярховага васьмідзесяцікватэрнага дома ідзе не больш тыдня.

Як жа вырабляюцца гэтыя блок-пакоі?

І вось мы на прадпрыемстве. Велізарны з вокнамі на ўсю сцяну корпус запоўнены бетоннымі кубамі. Тут пачынаецца праца па стварэнню будучага блок-пакоя. Вось мадэль. Яна прадстаўляе сабой унутранае абсталяванне пакоя. На мадэлі ўстанаўліваюцца калоны, якія злучаюцца паміж сабой сеткай з дроту. Гэта — шкілет будучага памяшкання. Форма ў ажурным пакрывале перамяшчаецца на пост арміравання і распалубкі. Тут у яе ўплятаюцца электраправодка з вывадамі для разетак.

Пост распалубкі прадстаўляе сабой фармовачную ўстаноўку з рухомымі сценамі. Пасля перамяшчэння мадэлі транспарцёрам, сцены ўстаноўкі ссоўваюцца. Пры гэтым ўтвараюцца пустоты. У іх і заліваецца бетон. Заліўка адбываецца спецыяльным бетонаўкладчыкам. Дзеля таго, каб у бетоне не было пустот, раствор ушчыльняюць з дапамогай вібратараў. Калі сцены заліты растворам, заліваюць столь блок-пакоя. Нарэшце заліўка закончана. Пачынаецца тэрмаапрацоўка сфарміраванага блок-пакоя. У кожнай сцяне ўстаноўкі ўмантаваны спецыяльныя спіралі. Праз іх прапускаецца электрычны ток. У выніку атрымліваецца высокая тэмпература. Робіцца „сушка" раствора. Тэрмаапрацоўка працягваецца пяць гадзін. Яна спрыяе больш інтэнсіўнаму згушчэнню бетона, што неабходна для атрымання сцен высокай трываласці. Пасля гэтага выраб паступае ў камеру даспявання. Тут на працягу пяці гадзін падтрымліваецца акрэсленая тэмпература. Бетон канчаткова даспявае.

Пасля тэрмаапрацоўкі атрыманы блок-пакой маставым кранам пераносіцца на раней сфарміраваную падлогу і з дапамогай электразваркі змацоўваецца з ім. Пасля гэтага пачынаецца мантаж унутраных дэталяў. Сантэхнікі ўстанаўліваюць батарэі цэнтральнага ацяплення, ванны і іншае абсталяванне. Электрыкі завяршаюць работы па электраправодцы. У той жа час сталяры падрыхтоўваюць і ўстанаўліваюць дзверы, шафы. Шкляры шкляць вокны. Затым выканчваюць памяшканні і фасад. І блок-пакой гатовы. На ўвесь цыкл работ — ад выраблення арматуры да выканчэння патрабуецца двое сутак.

На камбінаце ўсе працы выконваюцца механізмамі. Цяпер прадпрыемства за суткі выпускае 24 блок-пакоі. Калі камбінат дасягне запланаванай магутнасці, гэта лічба павялічыцца ў паўтара раза.

**Г. Шаўчак**
**фота В. Казлова**



*Новыя дамы на праспекце імя Сяргея Прытыцкага.*

## Куток практычных ведаў




### У НАШАЙ КУХНІ

У наш неспакойны і шпаркі век гаспадыні не маюць замнога часу, які б маглі прысвяціць кухні. А ўсё ж варыць трэба, бо ніякая сталоўка, ніякі рэстаран не дасць такога задавальнення, як добры, хатні абед, хаця і падрыхтаваны няраз „на хуткую руку".

Таму вельмі важна пры абсталёўванні кухні падумаць аб тым, каб месца, дзе звычайна гаспадыня падрыхтоўвае ежу, было зручнае, каб гаспадыні было трэба як найменш гадзін хадзіць, каб усё патрэбнае на кухні для падрыхтоўкі ежы максімальна сканцэнтраваць у адным месцы. Рухі гаспадыні павінны быць абмежаваны да мінімума — усё павінна быць пад рукой: і каструлькі, і прадукты, і нейкае вядро на адпадкі.

Вопыт паказаў, што найлепш абсталёўваць такое месца паміж злевам ці вадняркай (калі ў хаце няма водаправода) і плітой. Гэтая плошча не можа быць меншай, чым 60—100 см у даўжыню і 40—60 см у шырыню. Непадалёку павінен знаходзіцца посуд для прыпраў — цукру, солі, перцу і т.д. У ніжніх шафках з аднаго боку можна ставіць каструлькі ці іншыя прадметы, патрэбныя для падрыхтоўкі ежы, а ў шафцы пад злевам можна паставіць вядро ці нейкае іншае абсталяванне на адпадкі, якое найлепш было б завесіць на дзверцах.

Вельмі важна таксама, каб кухонная мэбля была зроблена з адпаведнага матэрыялу. У сучасны момант ёсць пад дастаткам кухоннай мэблі і для горада і для вёскі. Выбар багаты, і кожны паводле свайго густу і патрэб можа падабраць да сваёй кухні адпаведныя сегменты. Зроблены яны найчасцей з ламінату, дзякуючы якому іх паверхня не баіцца не толькі вады, але і квасаў, і высокай тэмпературы. Нічога не здарыцца, калі на ламінаваную шафку ўпадзе запаленая запалка, можна на яе таксама спакойна паставіць гарачую каструльку і г.д.

Мэбля з ламінату баіцца аднак механічнага пашкоджання. Таму ні ў якім выпадку нельга на ламінаце рэзаць нешта нажом або сячы сякерай.

Кухонныя сегменты неабходна мыць вадой з мылам, ці з якой-небудзь далікатнай вадкасцю, змякчаючай ваду.

Варта, што можна, рабіць на кухні седзячы, асабліва, калі работа гэта займае шмат часу, як, напрыклад, чышчэнне гародніны, рыбы, збіванне пены, мяшанне цеста і г.д. Сядзець пры гэтым трэба так, каб стамляцца як найменш. Таму варта падставіць пад ногі маленькі табурэцік і сядзець на стуле, абапершыся на яго спінку.

Па добрай, зручнай кухні відаць добрых, разумных гаспадароў.

*Гаспадыня*




У тую ноч Будэр паслаў радыёграму, якую склалі капітан і Вайтхазе, быццам бы падпісаную падпалкоўнікам Грэльхамерам, які на самай справе шмат ужо тыдняў знаходзіўся ў лагеры для ваенапалонных і нічога нават не сніў пра кацёл. Потым усе залезлі пад свае коўдры і спалі да самай раніцы.

З гэтага дня яны павялі спакойны, размераны спосаб жыцця. Клапатліва абсталявалі лагер, выкапалі тры зямлянкі — для сябе, для прадуктаў і для рацыі. Лавілі трусоў, збіралі грыбы, а Будэр зрабіў сабе вуду і, схаваўшыся ў гэтых кустах, выцягваў з возера фунтовыя рыбіны. Прывялі ў парадак сябе і адзенне і ў паўдзённыя гадзіны загаралі пад цёплым яшчэ восеньскім сонцам. Будэр пачаў звыкацца з такім жыццём і быў бы ўсім задаволены, каб яго ўвесь час не мучыла думка пра лёс акружаных войск. Кожныя дзве ночы ён пасылаў новую радыёграму, і змест іх рабіўся ўсё больш і больш змрочным. Тэкст прыносіў Вайтхазе. Ён ішоў пеша пяць кіламетраў да бярозавай дарогі, дзе цяпер знаходзіўся маленькі лагер — некалькі савецкіх салдат з коньмі, адтуль вярхом ехаў у вёску, там разам з капітанам складаў чарговую радыёграму, а наступнай ноччу вяртаўся назад. З сабой заўсёды прыносіў багаты харч.

Іншы раз капітан сам суправаджаў Вайтхазе да маленькага лагера ў лесе. Тыдні праз чатыры пасля таго, як Мартынаў пакінуў радыёгрупу, капітан сказаў Вайтхазе:

— Мы давялі ўжо колькасць акружаных войск да шасцісот пяцідзесяці. Цяпер крыху запаволім працэс знішчэння, інакш фашысты страцяць да катла ўсякую цікавасць.

— Можа гэта ўжо здарылася?

— Пакуль што, здаецца, не, — адказаў капітан. — Мы з іх яшчэ крышачку сіл высмакчам.

Яшчэ раз прачыталі апошнюю радыёграму з Усходняй Прусіі: „Самалёты і бензін абмежаваныя. Вымушаны скараціць палёты. Прасіце толькі самае неабходнае".

— Гэта не прыкмета страты зацікаўленасці, — сказаў капітан. — Яны б з ахвотай пастараліся лепш забяспечваць кацёл, але ўжо не могуць. Нашы ім даюць прыкурыць, ды і мы нямала з іх выцягнулі.

З гэтага дня фашысцкі кацёл пачаў паволі паміраць. Радыёграмы рабіліся ўсё больш роспачнымі, і ўсё менш самалётаў адважваліся пускацца ў далёкі шлях з Кенігсберга ў пушчу на поўнач ад Віцебска.

— Справа ідзе к канцу, — аднойчы канстатаваў Будэр. — Ці не пара ўжо здаваць кацёл?

— Гэта ад нас не залежыць, — адказаў Вайтхазе. — Такія пытанні вырашае фюрэр.

Твар Будэра зрабіўся змрочным. Самалётаў прылятала ўжо зусім мала. Аднойчы ў адным паку аказалася дубовае лісце да рыцарскага крыжа, якім Гітлер узнагародзіў свайго вернага падпалкоўніка Грэльхамера.

— Гэта прыкмета таго, — сказаў капітан, — што яны вырашылі скора развітацца з катлом. Час канчаць.

На наступны дзень, шэрай восеньскай раніцай, Будэра расштурхалі ад сну, і, расплюшчыўшы вочы, ён убачыў перад сабой савецкіх салдат. Ён памкнуўся ўскочыць на ногі, але Вайтхазе моцна трымаў яго.

— Спакойна, — загадаў Вайтхазе. — Не рабіце глупстваў. Пісталет ваш у мяне.

Будэр недаўменна пазіраў на ўсё, што рабілася навокал, — на савецкіх салдат, якія выносілі з зямлянкі рацыю, на рускага афіцэра, які сказаў яму на бездакорнай, хоць і з некаторым акцэнтам, нямецкай мове.

— Гэта называецца неспадзяваны напад, ці не так, Будэр?

Будэр глянуў на Вайтхазе, які трымаў у руках яго пісталет, на Франке, які павесіў сабе на шыю два аўтаматы — свой і Будэраў. Ён не мог зразумець, чаму Вайтхазе гаварыў з савецкім афіцэрам па-руску, і абодва весела смяяліся.

— Паслухайце, Будэр, — пачаў асцярожна Вайтхазе. — Вы зараз пачуеце нешта нечаканае. Што б вы сказалі, каб пачулі, што ніякага катла ніколі не існавала?

Будэр хацеў адказаць, што цяпер не час жартаваць і гаварыць глупства. Але толькі падумаў: „Вось я і ў палоне. Апошні час мне нешта гаварыла, што іншага канца не будзе. Чамусьці здавалася, што мяне не заб'юць. Палон лепш, чым смерць".

Будэр пачуў скрыгат грузавіка, які прадзіраўся скрозь кусты да возера.

— Нашы рэчы павязуць на машыне, — сказаў Вайтхазе Будэру. — А мы пойдзем пеша, не вельмі далёка. Адтуль паедзем на конях. Не рабіце глупстваў, не спрабуйце бегчы ці што-небудзь такое — не мае ніякага сэнсу.

Пакуль Франке разам з рускімі салдатамі грузіў рэчы ў машыну, Вайтхазе расказаў Будэру ўсю гісторыю, у якой Будэру была адведзена такая важная роля. Сам таго не ведаючы, ён справіўся з ёю выдатна.

